# Голас Радзімы

№ 18 (2160)
3 мая 1990 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.




У пасёлку Беразінскае Маладзечанскага раёна ўдзельнік Вялікай Айчыннай вайны мастак Мікалай Шчалканогаў арганізаваў дзіцячую студыю выяўленчага мастацтва. З таго часу прайшло дзесяць гадоў, а нястомны ветэран працягвае кіраваць студыяй, дапамагае падлеткам рабіць першыя ўпэўненыя крокі ў вялікі і чароўны свет мастацтва.

НА ЗДЫМКУ: юныя мастакі працуюць над партрэтам ветэрана вайны і працы Р. Чугунова.

Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.

*ГУТАРКА З ВУЧОНЫМ-ГІСТОРЫКАМ*

# НАРОД ПЕРАМАГЧЫ НЕЛЬГА

Вельмі цяжка нам, якія не бачылі тую вайну, пісаць пра яе. Не пакідае думка: а ці маеш права ты, недалучаны, разважаць пра тое, як жылося ў тыя страшныя гады людзям, ацэньваць іхнія ўчынкі, аналізаваць прынятыя тады рашэнні. Лёгка судзіць праз паўстагоддзя. Але, пагаварыўшы з Аляксеем Літвіным, прыйшла да (у нечым парадаксальнай) высновы: усё далей адыходзяць новыя пакаленні ад 40-х, але гаварыць праўду не робіцца лягчэй. Праўда заўсёды даецца няпроста... У чым жа прычына таго?

Вялікая Айчынная вайна стала адным з самых жорсткіх выпрабаванняў ва ўсёй нашай гісторыі. Краіна заплаціла за перамогу дзесяткамі мільёнаў чалавечых жыццяў, неабсяжным народным горам, слязьмі, пакутамі. Таму калі, нарэшце, усё закончылася, у пасляваенны час наступіў перыяд не проста радасці ад перамогі, а нават нейкай эйфарыі. І гэта зразумела: людзям, якія прайшлі праз усе сем кругоў пекла і вытрымалі выпрабаванні вайной, а найперш проста выжылі, захацелася псіхалагічнай палёгкі. У выніку, у іх сталі пераважаць успаміны, звязаныя галоўным чынам з нейкімі момантамі трыумфу, перамог, гераізму. А гразь, нечалавечае напружанне, боль заставаліся недзе ў глыбіні свядомасці, прыхаваныя прагай збавення ад тых кашмараў. Так пачынаўся працэс міфалагізацыі Вялікай Айчыннай вайны. Далей яму вельмі паспрыяла агульная ў краіне тэндэнцыя ўсё дзяліць толькі на чорнае і белае, калі і ад гісторыкаў, і ад літаратараў, і наогул ад кожнага чалавека патрабавалася адназначна расстаўляць ацэнкі: гэты герой, а той вораг, гэты патрыёт, а той памагаты... Але, як і жыццё не бывае двухколерным, так і падзеі часоў Вялікай Айчыннай нельга разглядаць толькі ў альтэрнатыўным варыянце, хаця, безумоўна, экстрэмальныя ўмовы варожага нашэсця непазбежна прыводзілі да значна большай палярызацыі ў грамадстве, чым у мірны час.

І ўсё ж такі міфы ёсць міфы, гісторыя ж не можа складацца з іх. Тут павінны гаварыць факты, дакументы і бесстаронні навуковы аналіз.

Хачу адзначыць яшчэ адну акалічнасць: нельга ўспрымаць імкненне да аб'ектыўнасці як спробу нешта зганьбіць і ачарніць, закрэсліць законны гонар народа той славутай перамогай. Гэта было б недапушчальна, проста кашчунствам. Але праўда і толькі праўда можа аддаць усім па заслугах, яна ніколі не прынізіць сапраўднага героя і не ўзніме на п'едэстал баязліўца. Толькі яна можа намаляваць сапраўдную карціну таго складанага, супярэчлівага часу, калі выбар патрабаваў ад кожнага чалавека мабілізацыі ўсіх яго душэўных сіл. І ад разумення гэтых умоў подзвіг сумленных, моцных людзей робіцца яшчэ больш значным і важкім.

Некалькі слоў пра нашага сённяшняга субяседніка. **Аляксей ЛІТВІН** — кандыдат гістарычных навук, загадчык аддзела гісторыі Беларусі перыяду Вялікай Айчыннай вайны ў Інстытуце гісторыі Акадэміі навук БССР. Тэму сённяшняй гутаркі ён прапанаваў сам. Зыходзіў не з моды або кан'юнктуры, зыходзіў з таго, што — набалела, час ужо... Здаецца, пра мінулую вайну, пра тое, як жыла Беларусь у тыя страшэнныя гады, сказана і напісана вельмі многа. Але ж вучоны лічыць: не ўсё сказана, не ўсё напісана...

**— Аляксей Міхайлавіч, давайце пачнём з пачатку: чым жыла Беларусь перад самай вайной! Шукаць вытокі, матывы ўсіх далейшых падзей трэба, мабыць, недзе там, напярэдадні саракавых!**

— Ніхто не адкрые Амерыкі, калі скажа, што для Беларусі ў перадваенны час найважнейшым фактарам стала ўз'яднанне заходняй і ўсходняй яе частак. Была рэалізавана сапраўды запаветная мара народа. І асабліва заходніх беларусаў.

Калі ацэньваць шлях, якім вырашалася праблема, ён сёння кваліфікуецца, як змова сталінскага і гітлераўскага рэжымаў, і яго, безумоўна, нельга назваць аптымальным.

**— Але ці варта казаць пра ўз'яднанне Беларусі — акт справядлівы як пра вынік няправеднай змовы! Усё ж такі Беларусь атрымала свае законныя тэрыторыі.**



1944 год. Вуліца Савецкая ў Мінску.

— Вядома, што, калі заключаўся Рыжскі дагавор, па якому заходняя частка Беларусі адышла да Польшчы, з народам Беларусі ніхто не раіўся. Усё залежала толькі ад пазіцыі Расіі і Украіны. Так што недарэчнасцей, і нярэдка з трагічным зыходам,у нашай гісторыі хапала заўсёды.

Якія ж былі планы Сталіна ў адносінах да падзеленай Беларусі? І ці хвалявала яго гэта наогул? Мяне як гісторыка такое пытанне даўно цікавіць. Мне здаецца, што і па сёння гістарычная навука не ў стане даць на яго поўны і дакладны адказ. Існуюць, дарэчы, розныя гіпотэзы і меркаванні.

На палітычнай арэне Сталін ніколі не выказваў прэтэнзій да Польшчы. Таксама мне невядомы факты, каб на агульнадзяржаўным узроўні прадпрымаліся якія-небудзь намаганні, каб стварыць умовы для ўз'яднання Беларусі, калі не лічыць тыя мерапрыемствы, што праводзіліся ў 20-я гады. Я маю на ўвазе палітыку «беларусізацыі», пераўтварэнні ў народнай гаспадарцы. У той жа час на тэрыторыі Заходняй Беларусі ўзмацняўся працэс супраціўлення, шырыўся партызанскі рух, які нарадзіў такіх славутых беларускіх герояў-патрыётаў, як Арлоўскі, Корж. Можа меркавалася, што народ сам знойдзе нейкае выйсце?

Ёсць на Захадзе такі гісторык-літаратуразнавец Антон Адамовіч. У гады вайны ён супрацоўнічаў з немцамі і разам з імі з'ехаў на Захад. Ён лічыць, што ў 20-я гады, у перыяд «беларусізацыі», нібыта існаваў план, па якому спачатку ў Заходняй, а потым ва Усходняй Беларусі павінна было падняцца паўстанне. У выніку Заходняя Беларусь выйшла б са складу Польшчы, Усходняя — са складу СССР, і яны фармальна ўз'ядналіся б у адно цэлае. Гэтая новая дзяржава мела б маскоўскую арыентацыю, нешта накшталт Манголіі. Інтрыгуючая гіпотэза, ці не так? Але толькі гіпотэза.

Аб'яднанне Беларусі было б таксама магчымым у выніку шырокага развіцця левых сіл, у тым ліку Кампартыі Заходняй Беларусі і Кампартыі Польшчы. Зразумела, што гэтым партыям аказвалася дапамога Камінтэрна. Каб даць адказы на гэтыя пытанні, патрэбны архівы, у тым ліку і камінтэрнаўскія.

Але, мне здаецца, мы адыходзім ад нашай тэмы. Вернемся да яе. І яшчэ раз падкрэслім: барацьба за ўз'яднанне дзвюх частак Беларусі ўзбудзіла, падняла нацыянальны рух. І, безумоўна, калі б з савецкага боку праводзілася палітыка дэмакратычная, гнуткая, многа чаго непрыемнага з таго, што чакала рэспубліку, яе грамадства наперадзе, можна было б пазбегнуць. Але, як мы ўсе ведаем, адразу пасля ўз'яднання на Беларусі пачаліся пошукі «ворагаў» і арышты, арышты, арышты. А потым высяленне асаднікаў, палякаў з Заходняй Беларусі.

**— Аляксей Міхайлавіч, ну, а як жа на Беларусі ўспрымалі фашысцкую Германію!**

— Наогул савецкі друк паказваў і імкнуўся пераканаць народы СССР, што мы з немцамі будзем жыць мірна. Меркавалася, што такім чынам фашысцкая Германія будзе «задобрана» і не стане сумнявацца ў неварожасці з боку СССР. Хаця, як сёння ўжо зразумела, многія нашы кіраўнікі ведалі: вайны ўсё роўна не пазбегнуць. Але ж для народа, як ужо казаў, пісалася іншае. Праўда, і ў многіх з простых людзей быў асабісты, рэалістычны погляд на сітуацыю.

Дзесяцігоддзямі ўся наша сістэма выхавання актыўна ідэалагізавалася. Усё зводзілася да крайнасцей. І людзям з дня ў дзень уводзілася ў вушы думка: калі вайна і пачнецца, то ніяк не на нашай тэрыторыі, Савецкая краіна такая моцная, што ніхто не асмеліцца сунуцца на яе зямлю, Сталін, армія заўсёды абароняць свой народ.

Між іншым, у 1939 годзе выйшаў закон аб агульнай воінскай павіннасці. І тады ж германскі генштаб даў заключэнне-прагноз, што на той момант Германія выйграе вайну ў Польшчы на працягу 2-3-х тыдняў і праўграе, калі замахнецца на Расію.

Але прайшло зусім нямнога часу, які змяніў сітуацыю карэнным чынам. Як вядома, перад самай вайной былі рэпрэсіраваны шматлікія савецкія военачальнікі, камандзіры, «пахаваны» многія перадавыя ваенныя тэорыі і дактрыны, якія яны выпрацоўвалі ў свой час. У СССР у сярэдзіне 30-х гадоў, напрыклад, ужо былі свае ваенна-паветраныя дэсантныя часці, існавалі паветраныя арміі. На жаль, пазней іх ліквідавалі. Чырвоная Армія была жорстка «пабіта» сваім жа ўласным дзяржаўным кіраўніцтвам. І нямецкі генштаб у 1940-м даў іншы прагноз: перамога будзе за Германіяй, можна рушыць на ўсход. Гэты прагноз не спраўдзіўся толькі дзякуючы таму, што простыя савецкія людзі ў барацьбе не лічыліся ні з якімі ахвярамі са свайго боку.

**— З чым жа сутыкнулася мірнае насельніцтва Беларусі ў першыя дні вайны!**

— Як вядома нават са школьных падручнікаў, краіна на першым часе аказалася не ў стане даць сапраўды маштабны адпор немцам. Ужо на шосты дзень яны захапілі Мінск. Літаральна за тыдзень была акупіравана ўся Заходняя Беларусь, тэрыторыя з мільёнамі насельніцтва.

Дваццаць другога чэрвеня выступіў Молатаў, а пасля наступіла зацішша. Што рабіць насельніцтву? У экстрэмальнай сітуацыі людзі былі фактычна кінутымі на волю лёсу. Склалася парадаксальнае становішча, калі народ, які вымушана застаўся на акупіраванай тэрыторыі, аказаўся ў ролі без віны вінаватага і амаль ці не з кляймом здрадніка.

Наогул беларусы са сваёй даволі бязрадаснай гісторыі ўжо ведалі, што такое фронт. Першая сусветная іх гэтаму навучыла добра. І што такое смак бежанства, таксама многія тады добра пазналі.

І вось зноў вайна, немцы, а з Масквы ні слыху, ні дыху. Людзі сталі складваць самы неабходны скарб у торбы і па дарогах рушыць услед за адступаючай арміяй. Хаця асноўная маса бежанцаў далёка не адышла. Немцы рухаліся хутка, выкідвалі наперад дэсанты, узрывалі масты, пераправы, і многія вымушаны былі павярнуць назад. Так было, напрыклад, каля Смалявіч, дзе проста стаялі загараджальныя атрады — нямецкія. Не грэбаваў вораг і бамбёжкамі, прамымі авіяналётамі на такія бежанскія калоны, дзе нярэдка былі перамешаны і ваенныя, і цывільныя.

**— Дарэчы, салдатам з беларускіх гарнізонаў выпаў лёс вельмі горкі...**

— Так, у надзвычай цяжкае, я б сказаў, трагічнае становішча трапіла частка арміі чацвёртай, трэцяя цалкам і дзесятая. Яны аказаліся ў акружэнні ў раёне ад Беластока да Мінска: Баранавічы, Навагрудак, Налібоцкая пушча, там працягваліся жорсткія баі і ў той час, калі немцы пайшлі ўжо далей, на Магілёў. Многія савецкія салдаты тады загінулі, многія трапілі ў палон (і потым ужо на іх ляжала кляймо здраднікаў), некаторыя перайшлі да партызанскіх метадаў барацьбы. Сапраўдны гераізм праявілі 100-я і 64-я дывізіі, якія абаранялі Мінск. А наогул у нас тут, на Беларусі, у першыя дні вайны адбылася страшная трагедыя.

**— Аляксей Міхайлавіч, вы ўжо сказалі, што ў першыя дні вайны насельніцтва, кіраўніцтва заходніх раёнаў аказаліся прадастаўленымі самі сабе...**

— Так. Хаця выходзілі некаторыя ўказы, але канкрэтных парад разгубленым людзям пэўны час не было. Толькі 29 чэрвеня выйшла дырэктыва СНК СССР і ЦК ВКП(б) «Партыйным арганізацыям прыфрантавых абласцей». Там былі ўказанні, якія фактычна паўтарылі ленінскае «сацыялістычная Айчына ў небяспецы». Усе пункты практычна паўтараюцца. Адным з іх стала распараджэнне партыйным камітэтам стварыць у тыле ворага партызанскія атрады і падпольныя групы супраціўлення акупантам. Але гэта ўсё толькі 29-га чэрвеня...

На той час наша беларускае кіраўніцтва ўжо было ў Магілёве. Адтуль і сталі накіроўвацца ў тыл ворага дыверсійныя і арганізатарскія групы. Заданні яны часта мелі часовыя, накшталт камандзіроўкі ці што. Напрыклад, узарваць цягнік і чакаць, калі падыдуць асноўныя часці Чырвонай Арміі. Ніхто ж не ведаў, колькі працягнецца вайна. Меркавалася, што лінія фронта хутка выраўняецца, падыдуць з усходу рэзервы.

Ведаеце, яшчэ ў 1925-м годзе Фрунзе сфармуляваў тэзіс аб татальнасці вайны: сучасныя войны — войны народаў. Гэта значыць, калі будзе вайна, то ў ёй прыме ўдзел весь народ. Вялікая ўвага пры гэтым надавалася так званай «малой», партызанскай вайне. Зыходзячы з гэтага, прапаноўваў ён, і трэба рыхтаваць народ, армію. Такога погляду, дарэчы, прытрымліваўся і Тухачэўскі. У пачатку 30-х гадоў пэўная работа па падрыхтоўцы партызанскай вайны вялася, але потым спынілася. У выніку наша непадрыхтаванасць на пачатку Вялікай Айчыннай да вайны татальнай, партызанскай адбілася на ходзе спраў.

**— Планам савецкага кіраўніцтва — хуткага паляпшэння становішча з лініяй фронта не суджана было спраўдзіцца. Але і гітлераўскія спадзяванні на бліц-крыг таксама праваліліся.**

— Безумоўна, гітлераўцы напачатку былі вельмі, нават занадта ўпэўненыя ў сваіх сілах, спадзяваліся, што «калос на гліняных нагах», як яны называлі СССР, распадзецца літаральна за лічаныя месяцы. А для гэтага трэба толькі разграміць рэгулярныя часці Чырвонай Арміі. Насельніцтва ж не стане аказваць значнага супраціўлення. І ў гэтым быў іх велізарны пралік. Нягледзячы на ўсе цяжкасці сталінскага рэжыму, рэпрэсіі, за 20 гадоў Савецкай улады было выхавана цэлае пакаленне савецкіх людзей, якія ўспрынялі новую ідэалогію, шчыра верылі і савецкаму ладу, і камуністычнай ідэі. Яны ішлі за свае ідэалы на смерць свядома. І гэта стала мацнейшым фактарам у барацьбе з акупантамі. У нас былі сапраўдныя прыклады масавага гераізму.

**Інтэрв'ю ўзяла Галіна УЛІЦЁНАК.**

**(Заканчэнне будзе).**

## *ВЫ ХАЦЕЛІ СУСТРЭЦЦА*

**Уладзімір Анічэнка — асоба вядомая і аўтарытэтная не толькі ў Гомелі, дзе ён жыве і працуе. Яго імя карыстаецца павагай у асяроддзі як нашых, так і замежных навукоўцаў. На яго «рахунку» больш за 140 навуковых прац па мовазнаўству. Прафесар, доктар філалагічных навук, заслужаны дзеяч навукі БССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР Уладзімір Анічэнка выхаваў не адно пакаленне настаўнікаў і даследчыкаў роднай мовы, якія плённа працуюць на ніве айчыннай культуры.**

**З Уладзімірам АНІЧЭНКАМ гутарыць наш карэспандэнт Таццяна АНТОНАВА.**

# ТАДЫ І КРЫЛЫ ЗА СПІНОЙ АДЧУВАЕШ



*— Уладзімір Васільевіч, рэдакцыя «Голасу Радзімы» нядаўна атрымала ліст ад суайчынніка з Вялікабрытаніі. Той піша, што летась меў шчасце сустрэцца ў Лондане з навукоўцам з Беларусі, які вельмі цікава расказваў пра гісторыю і культуру свайго народа, пра адраджэнне беларускай мовы, што пачалося з перабудовай у СССР. І выказвае пажаданне сустрэцца з вамі яшчэ раз на старонках газеты.*

*Скажыце, калі вы зразумелі і адчулі, што вас вабіць Слова?*

— Ішоў я да гэтага доўга. Паспрабую зараз знайсці тыя крынічкі...

Я нарадзіўся ў 1924 годзе ў вёсцы Янаўка. Гэта Хоцімскі раён на Магілёўшчыне. Бацькі мае — сяляне. Маці нарадзіла 11 дзяцей, я — пяты па ліку, пяты сын. Жыць нам тады было нялёгка, галаднавата. І я ўжо з маленства ўсяляк імкнуўся дапамагчы сям'і. Хаця і бедната мы былі, але жыццё радавала ўмелі. Маці дужа добра спявала. Ну і астатнія, як кажуць, не лапцем заціркy сёрбалі. У нас у першых у вёсцы з'явілася балалайка, гармонік... Нотнай граматы я не ведаў, але няблага іграў па слыху. Мяне запрашалі за музыканта аднавяскоўцы, ды і з іншых вёсак на якое свята ці пагулянку. Вучыўся я ў беларускай школе. Усе прадметы там выкладалі па-беларуску. Прынамсі, у нашай мясцовасці існавала змешаная руска-беларуская гаворка.

Пра што я тады марыў? Калі мне не здраджвае памяць, то хацеў я стаць матэматыкам. Але лёс распарадзіўся інакш. Пасля вайны, калі вярнуўся з арміі на радзіму, уладкаваўся працаваць у ваўкавыскую раённую газету «Зара». Менавіта тады, паспрабаваўшы журналісцкага хлеба, і адчуў сапраўдную асалоду ад беларускага слова, прыйшло рашэнне стаць лінгвістам.

**І ён стаў лінгвістам. Навука — гэта яго вера і яго Бог. Чатыры дзесяткі гадоў Уладзімір Анічэнка самаахвярна служыць навуцы. Яго службовае месца — за пісьмовым сталом у бібліятэках, архівах, кафедра ва універсітэце, кангрэсы, сімпозіумы... Праўда, няма ў яго паводзінах і абліччы традыцыйнага прафесарскага: паважнасці, вытанчанасці манер. Стыль жыцця гэтага чалавека прадыктаваны і абумоўлены як якасцямі яго натуры, так і вялікай колькасцю абавязкаў. Адсюль і дэмакратызм, і лаяльнасць да чужых меркаванняў і думак, і адначасова — патрабавальнасць. Засяроджаны, нібы адарваны ад усяго зямнога, калі напружана працуе над нейкай праблемай, ён проста пераўвасабляецца на лекцыях. Іншым разам нават здаецца, што прафесар загубіў у сабе артыстычныя здольнасці.**

**Калі У. Анічэнка здымае акуляры, субяседніка ўражваюць сінія, па-маладому ясныя вочы шчаслівага чалавека.**

**Лёс даў усяго паспытаць Уладзіміру Анічэнку. І быў пры гэтым літасцівы да яго. Можа быць, якраз таму, што той ніколі не скараўся сіле абставін, заўсёды імкнуўся пераадолець іх. Трапіў у фашысцкі канцлагер — уцёк. Немцы вывезлі ў Судзецкую вобласць на работы ў каменнавугальныя шахты — ён разам з іншымі смельчакамі арганізаваў аварыю і ўцёк. У Арліцкіх гарах у Чэхаславакіі, змагаючыся з фашыстамі ў партызанскім атрадзе, ён неаднойчы рызыкаваў, літаральна балансуючы на мяжы паміж жыццём і смерцю. Але, як гаворыцца, смелага і куля не бярэ. Узнагародай за мужнасць і смеласць было жыццё.**

*— Ваша навуковая кар'ера пачыналася ў Мінску. Як здольнага даследчыка, маладога кандыдата філалагічных навук, запрасіў працаваць у Інстытут мовазнаўства Кандрат Крапіва. Там была абаронена доктарская дысертацыя на тэму: «Беларуска-ўкраінскія пісьмова-моўныя сувязі». Раптам — ад'езд у Гомель. І ўжо 20 гадоў праца ў правінцыі. Вы не шкадуеце, што ўсё абярнулася менавіта вось так?*

— Наадварот, я магу толькі дзякаваць лёсу, што паехаў працаваць у Гомель. Тут было слабавата з кадрамі. Кандрат Крапіва запрапанаваў мне тады ўзначаліць кафедру беларускай мовы ва універсітэце, стварыць лексікаграфічны сектар. Я адразу даў згоду працаваць на Гомельшчыне. Чаму? Мяне, як мовазнаўцу, даўно вабіла наша беларускае Палессе. Мова Палесся захоўвае ў сабе такія таямніцы славяншчыны... Я, калі быў студэнтам, прымаў удзел у экспедыцыях у глыб Палесся. Запала ў душу мара — разгадаць гэта Палессе.

Работы аказалася столькі... На аддзяленні беларускай і рускай мовы тады толькі два прадметы чыталіся па-беларуску — беларуская мова і беларуская літаратура. А ўсе астатнія — па-руску. Трэба было ў корані мяняць сітуацыю, каб падняць прэстыж самой мовы. Не скажу, каб перабудова ішла гладка, але праз пэўны час студэнтам-філолагам усе прадметы выкладалі толькі на роднай мове. Увогуле я шмат увагі ўдзяляў менавіта педагагічнай дзейнасці. І гэта было надзвычай цікава мне. У Акадэміі я займаўся толькі навукова-даследчай працай. А тут жывыя людзі, калектыў. Выхаванне моладзі, нашай змены, я заўсёды лічыў найважнейшым сваім прафесійным і грамадзянскім абавязкам.

Выкладчыцкая работа адрозніваецца ад даследчай. Каб даследчую работу выконваць, трэба мець дзве ўмовы. Першая: жаданне. Другая: цярпенне. Спецыфіка вымагае доўгай працы сам-насам з паперамі, кнігамі. Трэба ўмець шукаць, збіраць, аналізаваць, сістэматызаваць. А педагог — ён і артыст, і імправізатар. Паспрабаваўшы сябе ў новай якасці, я не расчараваўся. Проста зразумеў, наколькі гэта важна — умець выкласці складаны матэрыял па мовазнаўству цікава і захапляюча, каб тыя, хто слухае цябе, палюбілі мову. І тады гэта любоў, як ланцуговая рэакцыя, будзе распаўсюджвацца на іншых...

Надзвычай плённымі для мяне, як для навукоўца, былі гады працы ў правінцыі, як вы назвалі Гомель. Тут я больш, чым у Мінску, мог засяродзіцца, сканцэнтравацца, каб заняцца любімай справай. А калі робіш любімую справу, тады нібы і крылы за спіной адчуваеш. Праўда?

**Галоўнае для чалавека ў жыцці — яго справа. Добрая справа не забываецца, яна доўга служыць нашчадкам. Яна лепшы помнік таму, хто яе зрабіў. Тое, што зроблена прафесарам Анічэнкам, не заўсёды можна, так сказаць, памацаць рукамі. Ён падрыхтаваў 15 кандыдатаў навук у Гомельскім універсітэце, дваіх у Вільнюскім, таксама дваіх — у Мазырскім і ў Мінскім педінстытутах. Калегамі і студэнтамі яго справа будзе прадоўжана. Ёсць і матэрыялізаваныя сведкі напружанай духоўнай працы вучонага. Яны стаяць томік да томіка, заняўшы цэлую паліцу ў кніжнай шафе: падручнікі па беларускай мове і мовазнаўству, «Марфалогія ўсходнеславянскіх моў», «Гістарычная лексікалогія ўсходнеславянскіх моў», «Беларускі казачны эпас», «Гістарычная лексікалогія беларускай мовы», «Беларуска-іншаславянскі сінкрэтызм мовы выданняў Францыска Скарыны», «Слоўнік мовы Скарыны», «Слоўнік народнай лексікі Гомельшчыны ў фальклоры і мастацкай літаратуры»... За стварэнне двухтомнага «Слоўніка мовы Скарыны» гомельскаму вучонаму была прысуджана Дзяржаўная прэмія БССР. Ужо завершана работа над шасцітомным «Слоўнікам мовы Янкі Купалы». Ужо другі год Міністэрства народнай адукацыі БССР фінансуе заказную тэму, якой таксама займаецца кафедра беларускай мовы пад кіраўніцтвам У. Анічэнкі, — «Традыцыйная духоўная культура і рэгіянальныя моўныя асаблівасці Усходняга Палесся».**

*— Палессе, прарадзіма славян, найбольш за іншыя тэрыторыі пацярпела ад чарнобыльскай катастрофы. Апынуліся ў «мёртвай» зоне дзесяткі вёсак і паселішчаў, многія будуць яшчэ адсяляцца. Эвакуіраваныя жыхары аказаліся раскіданымі па ўсёй Беларусі, а часта і па краіне. Чарнобыль, па сутнасці, знішчыў Палессе, нанёс непапраўную страту беларускай нацыі, яе генафонду і культуры. Якім чынам вы збіраецеся ажыццяўляць навуковую працу аб традыцыйнай духоўнай культуры і рэгіянальных моўных асаблівасцях усходняга Палесся пры такіх абставінах?*

— Я вас разумею. Наша справа як даследчыкаў значна ўскладняецца ў сувязі з тым, што многія палескія вёскі цалкам аказаліся эвакуіраванымі. Добра яшчэ, калі гэтых людзей перасяляюць усіх разам, кампактна, і яны могуць жыць тады ў звыклым асяроддзі. Менавіта так і трэба рабіць, каб гэтыя людзі змаглі зберагчы свае традыцыі, гутарковую мову. Наша ж справа, як вучоных, паспець, пакуль яшчэ не позна, зафіксаваць усё тое, што тысячагоддзямі ствараліся жыхарамі Палесся. Мы працуем па спецыяльнай праграме ўжо другі год. Разлічана яна на 5 гадоў. Рыхтуем кнігу, у якой будзе каля 50 раздзелаў. З адлюстраваннем у іх палескага фальклорнага рэпертуару — абрадаў, звычаяў, песень розных цыклаў і пораў года, прыпевак, трапных устойлівых выразаў, дзе захоўваецца пакуль што не забытая духоўная культура гэтага цудоўнага кутка беларускай зямлі. Кніга будзе забяспечана слоўнікам незразумелых і малазразумелых слоў. Гэта жывы матэрыял, якім можа ўзбагачацца беларуская літаратура, мастацтва, урэшце кожны, хто пажадае. Цяпер, калі ў нас адбываецца адраджэнне нацыянальнай культуры, гэты матэрыял прыдасца на карысць агульнай справе. Неўзабаве зноў выбіраемся ў экспедыцыю. У выпадку, калі трэба абследаваць мясціны, што пакінулі людзі, мы бяром звесткі аб тым, дзе яны цяпер пражываюць. І рассылаем ім анкеты з просьбай адказаць на тыя ці іншыя пытанні альбо едзем да іх самі.

*— Уладзімір Васільевіч, нягледзячы на агульны застой у краіне, які прыпаў на 70-я — пачатак 80-х гадоў, і неспрыяльную для рэалізацыі творчых і навуковых ідэй атмасферу, вы надзвычай плённа працавалі ў сваёй галіне і многага дасягнулі. Ці даводзілася вам пераадольваць перашкоды, якія, відаць, перад кожнай творчай асобай ставіла аўтарытарна-бюракратычная сістэма?*

— Мовазнаўства сутыкаецца з палітыкай. Праўда, не ў той меры, як літаратура. Я не магу сказаць, што мяне моцна заціскалі або не давалі рабіць тое, што я хачу. Але тым не менш, калі я працаваў над «Слоўнікам мовы Скарыны», то неаднойчы адчуваў незадаволенасць і проста нават недасведчанасць у навуцы асобных людзей з кіраўніцтва. Маўляў, чаго гэты прафесар корпаецца ў Біблії, якая карысць ад яе нашаму народу. Такое невуцтва і навуковая абыякавасць тым не менш вельмі замарудзілі тэмпы выхаду з друку маёй работы. Першы том, як вядома, апублікаваны ў 1977 годзе, а другі — толькі ў 1984. І незразумела было тым ахоўнікам навукі і мастацтва, што «Слоўнік мовы Скарыны» адлюстроўвае перш за ўсё даўнюю гісторыю беларускага народа, яго духоўную культуру, складаныя шляхі развіцця літаратурна-пісьмовай мовы на Беларусі.

А ўзяць зноў жа «Слоўнік мовы Купалы». Не ўсё напісанае Купалам было даступна чытачу. Уважлівае вока цэнзуры наклала забарону на тыя творы, якія здаваліся яму крамольнымі. У такой сітуацыі, працуючы над слоўнікам, мы, безумоўна, нешта выпускалі. У навуцы такое недапушчальна! Што ў выніку? Падрыхтавана шэсць тамоў. Неўзабаве яны будуць здадзены ў друк. А мы пасля зняцця цэнзурных рагатак працуем над матэрыяламі, якія складуць яшчэ два дадатковыя тамы.

*— Як універсітэцкі выкладчык, як вучоны, вы шмат робіце для таго, каб веды і культура шырока распаўсюджваліся ў народзе, каб беларускае слова зноў загучала на нашай зямлі і яго навучыліся шанаваць з маленства. Нядаўна прыняты Закон аб дзяржаўнасці беларускай мовы. Як на практыцы адбываецца беларусізацыя на Гомельшчыне? Як вы ацэньваеце сённяшнюю сітуацыю? Які ваш прагноз?*

— Адразу так многа пытанняў. Сітуацыя даволі бязрадасная пакуль, мушу вам сказаць шчыра. Абмалюю яе абрысы. Хаця і прыняты Закон аб мове, але ён марудна працуе. І, па сутнасці, недастаткова яшчэ робіцца ў гэтым кірунку. З энтузіязмам узялася наша грамадскасць за стварэнне гарадскіх курсаў беларускай мовы, але належнай колькасці слухачоў не знайшлося. Не знайшлося ў Гомелі добраахвотнікаў вывучаць сваю родную мову для практычнага карыстання. Па-ранейшаму ў горадзе нават экскурсаводы і музейныя работнікі не могуць абслугоўваць экскурсіі на беларускай мове. Вось такія парадоксы. На словах мы ўсе за адраджэнне, за духоўнасць, за родную мову, а на справе нейкая раўнадушнасць, абыякавасць. І не толькі з боку простых грамадзян, але і з боку ўлад — тых, хто нават абавязаны садзейнічаць ажыццяўленню Закона. Вось і прыклад. Абласное аддзяленне фонду культуры намеціла дзейсную праграму па адраджэнню народных промыслаў і рамёстваў, традыцый і абрадаў, духоўнай культуры Гомельшчыны найперш у межах яе палескага краю. Мы звярталіся ў розныя абласныя і гарадскія інстанцыі з просьбай выдзеліць для гэтых мэт памяшканне. Але воз і цяпер стаіць на месцы. Адно толькі радуе, што студэнты нашы прынялі Закон сур'ёзна. Яны добра зразумелі, куды дзьме вецер. Нават на негуманітарных факультэтах пераходзяць на беларускую мову. Там гэта складаней, таму што няма падручнікаў, даведнікаў, слоўнікаў. Супрацоўнікі кафедры беларускай мовы ўзяліся дапамагчы скласці для студэнтаў перакладныя руска-беларускія слоўнікі фізічнай, матэматычнай і спартыўнай тэрміналогіі. Нашу ініцыятыву падтрымаў Мазырскі педінстытут, дзе складаецца руска-беларускі слоўнік тэхнічнай тэрміналогіі.

Прагноз мой усё ж аптымістычны: зрухі ў нас з мовай будуць. Гэта несумненна. Але каб задумы нашы добрыя сталі справамі, трэба і самім нешта рабіць.

*— На што зараз скіраваны вашы намаганні?*

— Калі я быў летась у Лондане, то англійскія вучоныя папрасілі мяне падрыхтаваць падручнік па беларускай мове для жыхароў Вялікабрытаніі, якія хацелі б навучыцца размаўляць па-беларуску. Падручнік гэты павінен быць славістычнага профілю, дзе спалучаюцца звесткі па беларускай гісторыі, літаратуры, мове. Таксама яны прасілі болей пласцінак з беларускай гаворкай.

Заказ такі вельмі пачэсны і складаны. Я буду працаваць разам з англійскім вучоным Дзінглі, прафесарам Лонданскага універсітэта. Я адказваю за беларускую частку, а ён будзе транскрыпіраваць беларускі тэкст англійскай графікай і ў выпадку неабходнасці перакладаць яго на англійскую мову. Таксама да падручніка мяркуецца падрыхтаваць слоўнік незразумелых слоў. Думаю, што такая кніга павінна мець багата ілюстрацый. Зараз завяршаецца аўтарская работа па плане-праспекце падручніка. Я спяшаюся. Бо гэты падручнік вельмі чакаюць нашы суайчыннікі, якія жывуць у англамоўных краінах. Яны любяць мову сваіх продкаў і хочуць яе ведаць.

Яшчэ карціць выканаць мне адну сваю задуму, якая даўно не дае спакою — давесці да чытача ахапак звестак — выдаць ужо падрыхтаваную кнігу ўспамінаў «Вузы лёсу».

*— Дзякую за гутарку. І спадзяюся, што ўсе вашы намаганні недарэмныя, яны дадуць свой плён.*

*СТАРОНКІ МІНУЛАГА*

# НАШ КАСЦЮШКА...

«НАШ КАСЦЮШКА слаўны быў...» — гэтак вось здавён увечнілася ў беларускім слове постаць легендарнага рэспубліканца. Сёння з паняццем «наш» вытварыўся пэўны клопат. Акадэмічная пяцітомная «Гісторыя Беларусі», Беларуская Савецкая Энцыклапедыя згадваюць Касцюшку выключна як польскага дзеяча, кіраўніка паўстання 1794 года. Зазначана, праўда, што нарадзіўся ён на Беларусі — фальварак Мерачоўшчына пад Бярэсцем — і паходзіў з беларускага шляхецкага роду, вядомага з XV стагоддзя, з цягам часу апалячанага падобна многім іншым арыстакратычным родам на Беларусі. Школьны ж падручнік па гісторыі БССР пад рэдакцыяй Л. Абецадарскага прозвішча Касцюшкі нават не ўспамінае, урэшце як і само паўстанне 1794 года. А між тым пад паўстанцкімі сцягамі разам з палякамі змагаліся і беларусы, літоўцы. Палымяны патрыёт, барацьбіт за рэспубліканскую Польшчу Тадэвуш Касцюшка і ў гісторыю Беларусі, беларуска-польскага вызваленчага пабрацімства ўпісаў гераічную і драматычную старонку, а значыць, блізкі нам не толькі «геаграфічна».

Гістарычна-духоўнае сваяцтва славутага паляка з беларусамі пакуль што не дачакалася належнага вытлумачэння даследчыкамі. Затое ў памяці народа крэўнасць гэтая даўно выверана і выверана даволі высокімі этычнымі і эстэтычнымі крытэрыямі, стасаванымі звычайна да постацяў сапраўды вялікіх, сапраўды народных. Красамоўны таму доказ — прапануемая ўвазе чытачоў «Беларуская песня пра Касцюшку», трапяткі лірыка-эпічны сказ народа пра свайго героя-заступніка.

Твор друкаваўся ў польскай газеце «Дзённік познаньскі» (1882). Аўтар невялічкага ўступу да публікацыі, нехта Пламеньчык (пра яго згадвае Адам Мальдзіс у сваіх «Літаратуразнаўчых вандраваннях») паведамляў, што яшчэ ў юнацтве, на пачатку 60-х гадоў, пачуў быў гэтую песню на Лепельшчыне ад аднае вясковае кабеты. Але толькі дваццаццю гадамі пазней, зноў адшукаўшы сялянку-спявачку, запісаў з яе вуснаў дакладны тэкст. Выконвалася песня (чытаем далей) пад рэфрэн «Слаўна Вільня, слаўна Гродна, а слаўней Варшава». Таму ж Пламеньчыку, як піша, давялося таксама чуць — ужо ў іншым месцы, на Дзісненшчыне — кароценькую прыпеўку:

**Наш Касцюшка слаўны быў,**
**Ён маскалёў добра біў.**
**Як Касцюшкі ні стала —**
**Уся Польшча прапала.**

З публікацыяй Пламеньчыка пераклікаецца пэўным чынам яшчэ адзін вуснапаэтычны твор на касцюшкаўскі матыў, са зборніка П. Шэйна «Беларускія народныя песні» (1874, нізка «салдацкіх песень», с. 384). Праўда, у шэйнаўскай публікацыі заўважаецца пэўная сацыяльная і нацыянальная адчужанасць да паўстання як да чыста шляхецкага і польскага, хаця постаць самога Касцюшкі, загінуўшага на вайне, таксама выпісана экспрэсіўнымі тонамі народнага спачування і жалю:

**Ляжыць, ляжыць пан**
**Касцюшка**
**Аж пад белым стогам;**
**Прыходзіла, прыязджала**
**Жана маладая,**
**Кітаячку падымала,**
**Ліцо цалавала...**

Урэшце да «касцюшкавага» паэтычнага цыклу далучаецца і «Песня беларускіх жаўнераў» (1794), урыўкамі з якой адкрываецца новае, другое выданне хрэстаматыі «Беларуская літаратура XIX стагоддзя».

Такім чынам, пытанне адносна «нашага Касцюшкі» даволі проста паддаецца высвятленню на карысць гістарычнай памяці, нацыянальна-народнага гонару беларусаў за свайго гераічнага суайчынніка.

**Аляксей КАЎКА.**

## БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ ПРА КАСЦЮШКУ

**Выезджаець пан Касцюшка**
**Маскву ваёваць,**
**Засвісталі казачэнькі***
**Ў поўнач на выходзе.**
**Заплакала Марысенька**
**Ў свае ясныя вочы.**
**«Ня едзь, ня едзь, пан**
**Касцюшка,**
**Маскву ваёваць, —**
**Масква сільна і вяліка,**
**А дзе ж яе мала?»**
**Ёсць у казакаў коні вараныя.**
**«Ня плач, ня плач,**
**Марусенька,**
**Я вазьму з сабою,**
**Я цябе вазьму з сабою —**
**Назаву сястрою.**
**Хоць сястрою ня раднею —**
**Жаўнерскай жаною.**
**А мы будзем Маскву ваёваць,**
**А мы будзем мёд, віно піць,**
**Маруська — слёзкі ліць».**
**Ваявалі, ваявалі —**
**Касцюшку забілі.**
**Ляжыць, ляжыць пан**
**Касцюшка**
**На белым каменю.**
**Прышла яго Марусенька,**
**Слязьмі залілася:**
**«А я ж цяпер няшчасная**
**Адна засталася!**
**Чы я табе, пан Касцюшка,**
**Чы не гаварыла,**
**Што ня едзь, пан Касцюшка,**
**Маскву ваёваць.**
**Масква сільна і вяліка,**
**А гдзе ж яе мала?»**
**Вазьмі, маці, пяску жменю,**
**Пасей на каменю.**
**Як той пясок узыйдзець,**
**Так Касцюшка з вайны**
**прыдзець.**
**Ляціць пятух чэраз рэку,**
**Пяе кукарэку,**
**Я ня ўвіжу Касцюшэчкі**
**Ад веку да веку.**
**Ляціць воран чэраз морэ,**
**А лятучы крачыць,**
**А хто ж майго Касцюшэчкі**
**Магілку аплачыць?**

* Казачэнькамі часам называюць беларусы жаўнераў. Аднак назва гэтая адносіцца звычайна да нерэгулярнага, міліцэйскага войска. Падобны выраз ужывалі сяляне падчас паўстання 1863 года.

ПЕРАБУДОВА: ПОГЛЯД З МАСКВЫ

# БЕЗ КОМПЛЕКСУ СТАРЫХ ДОГМАЎ

Ці можна спыніць перабудову ў савецкай культуры? Думаецца, што ўжо нельга. Таму што людзі, якія скінулі з сябе духоўнае ярмо, зноў яго добраахвотна не надзенуць. Трэба быць адпетым мізантропам, каб паверыць у такую перспектыву.

«А не добраахвотна?»—скажуць скептыкі. Быў жа ленінскі нэп, які змяніўся сталінскай калектывізацыяй. Прыйшлі ж на змену хрушчоўскай адлізе доўгія гады застою...

Зразумела, пісьменнікі, жывапісцы, акцёры, музыканты— такія ж людзі, як і ўсе астатнія. Іх, ва ўсякім разе пэўную частку, і сёння можна, напэўна, прымусіць тварыць па ўказаннях. Для гэтага пакуль яшчэ існуюць і сілавыя, і матэрыяльныя рычагі. Аднак трэба ўлічваць, што за пяць гадоў перабудовы значна змянілася свядомасць гледачоў і чытачоў. Для іх гэтая пяцігодка стала без перабольшання цэлай эпохай.

Гэтыя пяць гадоў зрабілі рэвалюцыю ў духоўным жыцці, здзейснілі круты пераварот у поглядах і свядомасці людзей. Перабудова навучыла іх крытычна мысліць, падвяргаць сумненню догмы, ад каго б яны ні зыходзілі, распазнаваць дэмагогію... Атрымаўшы магчымасць чытаць Ганну Ахматаву, Мікалая Бярдзяева, Барыса Пастэрнака, Мікалая Гумілёва, Міхаіла Булгакава, Марыну Цвятаеву, Андрэя Платонава, яны атрымалі і магчымасць параўноўваць.

Сіле часта ўступаюць, але пакорліва скараюцца толькі розуму. Можна, вядома, прымусіць драматурга напісаць «патрэбную» п'есу. Можна спакусіць рэжысёра на стварэнне лакіровачнага фільма. Але гледачоў сёння нельга прынудзіць глядзець сумныя, дэкларатыўныя, павучальныя спектаклі, тэндэнцыйна - прапагандысцкія стужкі. З кожным месяцам, з кожным днём яны становяцца ўсё больш духоўна незалежнымі. Менавіта глядач і чытач становяцца гарантамі перабудовы ў мастацкай культуры. Менавіта яны сваёй цалкам прадказуемай рэакцыяй абараняюць яе сёння і абароняць заўтра.

Яшчэ зусім нядаўна здавалася немагчымым выдаваць у СССР творы Аляксандра Салжаніцына, кнігі «дысідэнтаў»— — Уладзіміра Вайновіча, Георгія Уладзімава, Віктара Някрасава... Яшчэ ўчора нават самыя адчайныя аптымісты не паверылі б, што ў свой Тэатр на Таганцы вернецца апальны рэжысёр Юрый Любімаў, фактычна выгнаны з краіны. Што ў Маскву прыедзе з гастролямі вялікі віяланчаліст Мсціслаў Растраповіч з жонкай — вядомай спявачкай Галінай Вішнеўскай, прыедуць як грамадзяне СССР, якім вернута гэта грамадзянства...

Сёння ж мала хто паверыць, што можна зноў забараніць Салжаніцына, выключыць з бібліятэк кнігі Пастэрнака і Платонава, Някрасава і Гумілёва, выслаць з краіны непажаданых рэжысёраў. Яшчэ больш цяжка ўявіць, што Растраповіча і Вішнеўскую зноў пазбавяць савецкага грамадзянства, а з творчых саюзаў зноў пачнуць выключаць [illegible]стакоў за іншадумства. [illegible]та думаць, што сучаснае грамадства можа вярнуцца да язычніцтва. Напэўна, гэтак жа памылкова лічыць, што старыя парадкі зноў усталююцца сярод новых людзей.

Сёння палітыка ў культуры ўжо ў многім фарміруецца пад уплывам гледачоў і чытачоў. Заўтра гэтая палітыка будзе яшчэ больш залежаць ад іх. Народ красамоўна выказаў свае адносіны да «шэрых» кніг — яны ляжаць на паліцах магазінаў. Ён таксама ясна выказаў сваё меркаванне аб парадных мастацкіх аглядах — перастаў іх наведваць. Ён прагаласаваў нагамі і супраць тых псеўдамастацкіх фільмаў і спектакляў, якія яму спрабавалі навязаць тыя, хто яшчэ мысліць штампамі мінулага.

Рэформы ў мастацтве звязаны з лёсам перабудовы ў грамадстве. Але «культурная перабудова» ідзе ў авангардзе падзей. Яна — своеасаблівы барометр, які дапамагае зразумець і асэнсаваць сітуацыю ў маштабе ўсёй краіны.

Калі б яе маглі спыніць, то яе абавязкова спынілі б. Але сёння гэта немагчыма: змяніўся час, перамяніліся людзі і на змену старэйшаму і сярэдняму пакаленням прыйшло пакаленне без комплексаў старых догмаў. Нават артадаксальныя чыноўнікі ад культуры сталі нешта разумець, пра нешта здагадвацца. У іх магчымасцях яшчэ прытармазіць працэс перамен, але спыніць яго яны ўжо не ў стане.

«У ісціны ёсць сіла пераканання, якой не валодаюць ні памылкі, ні хлусня», — гаварыў Анатоль Франс. Перабудова ў савецкай мастацкай культуры гістарычна наспела. Яна лагічная, яна мае рацыю. У гэтым залог яе поспеху.

**Гаўрыіл ПЕТРАСЯН.**





Фрагменты рытуальных абрадаў «Каравай», «Вяночкі», «Дажынкі» і іншыя—у рэпертуары фальклорна-этнаграфічнага калектыву калгаса «Бальшавік» Камянецкага раёна. Больш чатырнаццаці гадоў кіруе самадзейнымі артыстамі Вольга Шаўчук. Сярод удзельнікаў—паляводы, спецыялісты гаспадаркі, настаўнікі, пенсіянеры. Сельскі калектыў — дыпламант многіх конкурсаў, ён выступаў на фальклорных святах на Украіне і ў Беларусі.

НА ЗДЫМКАХ: фальклорна-этнаграфічны калектыў калгаса «Бальшавік»; старэйшая салістка калектыву Соф'я ЗАРЭЦКАЯ.

Фота Я. КАЗЮЛІ.

СТВОРАНА ЎСЕСАЮЗНАЕ ТАВАРЫСТВА КАЛЕКЦЫЯНЕРАЎ

# СТОЛЬКІ ЦІКАВАГА І ЗАГАДКАВАГА

Развіццю руху калекцыянераў-аматараў у нашай краіне доўгі час не ўдзялялі ўвагі. Але без іх, нястомных, заўзятых збіральнікаў, культура пазбавілася вялікага багацця, якое складае агульнанародны здабытак.

Сёння калекцыянеры атрымалі нарэшце рэальную магчымасць ажыццявіць свае надзеі. Пасля карпатлівай падрыхтоўчай работы, праведзенай кіраўніцтвам Савецкага фонду культуры, быў скліканы ўстаноўчы з'езд Усесаюзнага таварыства калекцыянераў, які адбыўся ў канцы мінулага года ў Маскве. Амаль 150 дэлегатаў і гасцей — прадстаўнікоў 58 гарадоў краіны сабраў з'езд. У тым ліку і з Беларусі.

Быў прыняты статут Усесаюзнага таварыства калекцыянераў (УТК), які ўпершыню паставіў уровень усіх збіральнікаў прадметаў матэрыяльнай культуры, незалежна ад аб'екта калекцыяніравання.

Галоўныя задачы УТК — гэта творчае вывучэнне і памнажэнне айчыннай і сусветнай гістарычнай і культурнай спадчыны.

Старшынёй праўлення Усесаюзнага таварыства калекцыянераў выбраны нумізмат, вядомы артыст тэатра і кіно Аляксандр Лазараў.

Крыху з гісторыі калекцыяніравання. Найбольш даўнім зборам, які вядомы ў нашай краіне, лічыцца скарб з 138 жаночых упрыгажэнняў, выяўлены пры раскопках у Маскве ў сувязі са святкаваннем 1000-годдзя хрышчэння Русі. Скарб гэты датуецца 1237—1238 гадамі.

У дарэвалюцыйнай Расіі калекцыяніраванне было развіта даволі шырока. Яшчэ ў час царствавання Пятра I пры вядомай кунсткамеры існаваў мюнц-кабінет. У 1881-м пры таварыстве гісторыі і старажытнасцей Маскоўскага універсітэта стварылі і таварыства калекцыянераў. Вядома таксама вялікая колькасць прыватных збораў.

Рух калекцыянераў-аматараў адрадзіўся ў першыя гады Савецкай улады. Каля яго вытокаў стаялі вядомыя вучоныя, палітычныя і грамадскія дзеячы. У 1923-м заўзяты калекцыянер бон бальшавік Ф. Чучын па даручэнню А. Луначарскага распрацаваў праект статута таварыства калекцыянераў і нават сустракаўся з У. І. Леніным для абмеркавання праблем, што сталі перад савецкімі калекцыянерамі. Распрацаваны Чучыным праект быў старанна вывучаны і зацверджаны пастановай Народнага камісарыята унутраных спраў 29 студзеня 1924 года.

Крыху пазней Усерасійскае таварыства калекцыянераў было аб'яднана з Савецкай філатэлістычнай асацыяцыяй, якая ў тыя гады ажыццяўляла гандаль і абмен манетамі. Гэтая аб'яднаная арганізацыя пачала паспяхова працаваць пры актыўным садзейнічанні У. І. Леніна. Работа гэта працягвалася аж да 1938 года. У цяжкіх умовах, у якіх апынулася ўсё наша таварыства, нялёгкі лёс напаткаў і калекцыянераў, у першую чаргу нумізматаў, паколькі яны часта набывалі і абменьвалі манеты з каштоўных металаў, а існуючае заканадаўства забараняла прыватныя аперацыі з імі. Вырашана было дзейнасць нумізматаў спыніць, а ў канцы 1938 года і Усерасійскае таварыства калекцыянераў было разагнана, многія калекцыянеры былі рэпрэсіраваны, каштоўныя калекцыі бясследна зніклі.

Сёння ў краіне існуе больш за 600 розных клубаў калекцыянераў, і вестка аб утварэнні УТК успрынята ў асяроддзі збіральнікаў з вялікім энтузіязмам. УТК будзе многа рабіць для павышэння культуры насельніцтва, беражлівых адносін да помнікаў гісторыі. Упэўнены, што ўтварэнне новага таварыства ў многіх выпадках збераже унікальныя экспанаты, далучыць тысячы людзей да прадметаў культуры, дазволіць зрабіць насычаным адпачынак. Таму што столькі загадкавага, цікавага захоўваюць калекцыі...

**Леў КОЛАСАЎ.**

# ФЕСТЫВАЛЬ НАРОДНАЙ ТВОРЧАСЦІ







Новыя імёны адкрыў знатакам мастацтва III Усесаюзны фестываль народнай творчасці. На выстаўцы ў адной з буйнейшых залаў мінскага Палаца мастацтва работы прадстаўляюць каля двухсот аўтараў. Народныя майстры Мінска і сталічнай вобласці дэманструюць свае магчымасці амаль ва ўсіх жанрах—жывапісе і кераміцы, саломапляценні і фларыстыцы, макрамэ і ткацтве, многіх іншых. Побач з вядомымі майстрамі тут экспануюць работы маладыя аўтары — жывапісец Яўгеній Зімніцкі, кераміст Уладзімір Смірноў, вышывальшчыца Тамара Багданава і іншыя.

НА ЗДЫМКАХ: знаёмства з экспазіцыяй; кераміка Мінішчыны; І. ОСЬКІНА-КОРАБАВА (Мінск). «Дэкаратыўнае пано».

Фота Я. КАРПАВА.

# БЕЛАРУСКАЯ КУХНЯ

## КРАПІВА, ЗАПЕЧАНАЯ Ў ДУХОЎЦЫ

700 грамаў крапівы парэзаць і крыху падсмажыць з паловай шклянкі тлушчу. Дабавіць пяць-шэсць пёраў дробна парэзанай зялёнай цыбулі, чорнага перцу і солі на смак, тры-чатыры сталовыя лыжкі мукі, усё перамяшаць і падсмажыць. Зняць з агню і ахаладзіць. Дабавіць шклянку здробненай на тарцы брынзы, два-тры яйкі, змешаныя з дзвюма шклянкамі малака. Сумесь размяшаць, выкласці на невялікую бляху, змазаць алеем і запячы ў моцна нагрэтай духоўцы.

## КРАПІВА КВАШАНАЯ

Адна крапіва сквашваецца дрэнна, яе неабходна квасіць у сумесі з іншымі травамі — скрыпенем, бацвіннем буракоў, лісцем сніткі ці з капустай, дабавіўшы крыху морквы. Лісце зяляніны прамыць, абварыць кіпенем. Соль бяруць з разліку 40 грамаў на 1 кілаграм зяляніны. Дно пасудзіны пасыпаюць соллю, зяляніну ўкладваюць слаямі 5-6 сантыметраў, кожны раз утрамбоўваючы да выдзялення соку і пасыпаючы соллю. Зверху пакласці кавалачак жытняга хлеба, загорнутага ў марлю, і засыпаць яго зяленінай. Можна ўліць крыху хлебнага квасу.

Наверх кладуць марлю, накрываюць драўляным кругам і прыціскаюць. Трымаюць посуд з квашанай крапівой на холадзе.

## САЛАТА СА СВЕЖАЙ КРАПІВЫ

Перабраць маладую крапіву, аддзяліць лісточкі, прамыць, дробна пакрышыць. Парэзаць адну-дзве цыбуліны, патаўчы іх разам з крапівой. Атрыманае пюрэ заправіць зяленінай пятрушкі, соллю, воцатам і алеем. Салату гарніраваць дробна парэзанымі варанымі яйкамі.

200 грамаў крапівы, 2 яйкі, 30 грамаў алею, соль, воцат на смак.

## МАЛЯВАЛІ САЛДАТЫ НА ВАЙНЕ

Рэдкую магчымасць убачыць невядомыя эпізоды гераічнай барацьбы савецкага народа з гітлераўскімі акупантамі атрымалі шматлікія наведвальнікі Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. У адной з залаў тут разгорнута экспазіцыя выстаўкі «Імгненні вайны ў малюнках франтавых і партызанскіх мастакоў». Твары баявых сяброў і сябровак, атаку кавалерыстаў генерала Даватара, спаленыя хаты, натруджаныя рукі жанчын-партызанак, якія пякуць хлеб для байцоў, і шмат іншых малюнкаў можна ўбачыць на стэндах.

# спорт

ГАНДБОЛ. У першым паўфінальным матчы розыгрышу Кубка еўрапейскіх чэмпіёнаў мінскі СКА прымаў заходнегерманскую каманту ТУСЕМ і выйграў з лікам 27:17.

ШАХМАТЫ. Савецкі гросмайстар Аляксандр Чарнін заваяваў галоўны прыз міжнароднага турніру, які прайшоў у Боне. Усяго паўачка ўступіў яму мінчанін Барыс Гельфанд. У яго другое месца.

ТЭНІС. Як паведаміла Міжнародная федэрацыя жаночага тэніса (ВІТА), беларуская спартсменка Наталля Зверава займае трэцяе месца ў свеце па колькасці ачкоў, якія яна набрала ў сёлетніх турнірах: 948.

ГІМНАСТЫКА. На розыгрышы Кубка СССР вялікага поспеху дамагліся прадстаўнікі нашай рэспублікі. Святлана Багінская заняла першае месца ў мнагабор'і, а Віталь Шчэрба ў асобных відах заваяваў два залатыя і два сярэбраныя медалі.

Славутая савецкая гімнастка, алімпійская чэмпіёнка мінчанка Нэлі Кім узначаліць падрыхтоўку зборнай Паўднёвай Карэі да маючых адбыцца ў верасні гэтага года Азіяцкіх гульняў у Пекіне. Падпісаны кантракт прадугледжвае яе работу ў якасці трэнера зборнай на працягу трох месяцаў, пачынаючы з 15 мая.

«Лічу, што гэта патэнцыяльна моцная каманда,—сказала Кім.— Я сачу за выступленнем гімнастак гэтай краіны і ўпэўнена, што 17-е месца, заваяванае імі на апошнім чэмпіянаце свету, далёка не мяжа. У мяне ў прынцыпе ўжо гатовы наметкі праграмы, па якой збіраюся весці работу са зборнай».

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:

МІНСК-5, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Індэкс 63854. Зак. № 574